"Бывай здаровы, мужыцкі народзе! Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе". К.Каліноўскі.



# СПАДЧЫНА

АСВЕТНІЦКАЯ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА ЛЁЗНЕНШЧЫНЫ. №3, жнівень 2000г.




**Рыгор Барадулін**

## Усебеларускаму З'езду

*Беларусь, як брыльянт у пярсцёнку Еўропы.*
*Мы болей не хлопы і не халопы.*

Нам богам дадзенае права
Радзімы нашай дзецьмі звацца
І наша даўняя дзяржава
Дзяржавай мусіць заставацца.

Ні перад кім ніколі продкі
Не гнулі гордыя галовы.
У паднявольных век кароткі.
У пастцы толькі сыр дармовы.

Як сэрца біцца перастане
Матулі нашай, нас не стане.
І толькі застануцца здані
У напамін аб цёмным змане.

Не варта вабіцца дарамі,
Што абяцаюць у прымусе.
**Дык будзем жа гаспадарамі**
**У цёплай хаце Беларусі!**



# АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

– усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;

– нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай- заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднанных Нацый;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**● ЗАЯЎЛЯЕМ: ●**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчала незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства самастойнасці і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх улад, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краін свету. Мы — за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы.Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрывае шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,

**● СВЕДЧЫМ ●**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі - бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**● АБВЯШЧАЕМ ●**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**● ПРЫЗНАЁМ ●**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**● ЗАКЛІКАЕМ ●**

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**Жыве Беларусь!**

*Прынята Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску.*

# НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ

Любы помнік павінен адлюстроўваць гістарычную або культурную спадчыну краю. Але з гэтай акалічнасцю у нашым грамадстве, асабліва за савецкім часам ніколі не лічыліся. Таму і не дзіўна, што нашы гарады ды вёскі «упрыгожваюць" помнікі, бюсты герояў суседніх дзяржаў або палітыкаў, якія не зрабілі і кроплі дабра для беларускага народа. Але, як паказваюць апытанні, гэта зусім неабыякава для грамадзян. Напрыканцы мінулага года моладзі гарпасёлка ва ўзросце 15-18 гадоў была прапанавана анкета наступнага зместу: «Каму з пералічаных вядомых людзей варта было б устанавіць помнік на цэнтральнай плошчы Лёзна: Леніну, Мірону, Лукашэнка, Лынькову, Шагалу, Скарыне?» У апытанні прыняло ўдзел 265 падлеткаў. Вынікі былі даволі нечаканымі.

| Прозвішча | Колькасць чалавек | Працэнт | Рэйтынг |
|---|---|---|---|
| Скарына | 176 | 66,4% | 1 месца |
| Шагал | 118 | 44,5% | 2 месца |
| Мірон | 87 | 32,8% | 3 месца |
| Лукашэнка | 56 | 21,1% | 4 месца |
| Лынькоў | 52 | 19,6 % | 5 месца |
| Ленін | 29 | 10,9% | 6 месца |

Гэтыя прозвішчы былі ўзяты невыпадкова. Імя Леніна на Беларусі шанаваная ўладамі і па-сённяшні дзень.Скарына - сімвал усёй Беларусі на працягу апошняга паўтысячагоддзя, а Лынькоў і Шагал менавіта ўраджэнцы лёзненскай зямлі. Усе яны асобы вядомыя, як сваёй знешнасцю, так і сваімі справамі. Ну, а Мірон, ён таксама наш, з Лёзна. У сваім апошнім творы «Байкі жыцця. Страх.» Васіль Быкаў распавядае нам наступнае: «І тады ў горадзе з'явіўся Мірон. Гэта быў малады хлапец, з самай галоднай правінцыі, ён валодаў неверагоднымі здольнасцямі. Вырасшы ў лесе, мог улезці на самае высокае дрэва, нават на голы ствол пальмы (40-метровы комін - **рэд.**). .Як ён тое рабіў, ніхто ніколі ня бачыў... Характарам ён быў свавольнік».

Падлеткам з 6 прозвішчаў было прапанавана выбраць два. Найбольшы працэнт набраў Скарына - 66,4%, на другім месцы Шагал - 44,5% і на трэцім ананімны Мірон - 32,8%. Высноваa - новае пакаленне выбірае сабе сваіх герояў, вылучаючы на першае месца агульначалавечыя каштоўнасці (творчасць Скарыны і Шагала) і нацыянальна-адраджэнскія пачуцці (Мірон). Вядома, прыйдзе час, калі мы, лёзненцы, прымем самастойнае рашэнне якому помніку стаяць на цэнтральнай плошчы пасёлка. І сярод іншых ганаровае права павінен атрымаць Мірон.



Рэжым вельмі баіцца новых нацыянальных сімвалаў, таму і была заарганізавана цэлая кампанія па вышуку няўлоўнага Мірона па Лёзне. Каля коміна РКБА палявалі міліцыянты, але ўсё дарэмна - сцяг з'яўляўся ў новых месцах, а потым зноў на злашчасным для вертыкальшчыкаў коміне. Спачатку былі спілаваны на некалькі метраў прыступкі коміна, а восенню мінулага года яго зусім завалілі, парэзалі на часткі. Комін - сімвал знік. Але памяць пра Мірона сярод лёзненцаў будзе жыць заўсёды.

Праект памятнай стэлы Мірону выканаў ананімны самадзейны мастак з Лёзна.

**М.МІХАЙЛАЎ.**



**Шаноўныя чытачы газеты "СПАДЧЫНА"!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць усе наступныя нумары нашага выдання – рабіце заяўкі па рэдакцыйнаму тэлефону.

Акрамя таго, усе жадаючыя **могуць бясплатна** атрымліваць наступныя выданні:

**"Свабоднае слова"** – дайджэст і інфармацыя (матэрыялы недзяржаўнай прэсы)

**"Працоўная Грамада"** – грамадска-палітычная газета для ўсходняй Віцебшчыны.

**"Гасцінец"** – культурна-грамадскае выданне Гарадоччыны.

Чытачы таксама маюць магчымасць пазнаёміцца з выданнямі НДА Віцебшчыны: **"Крэсы"**, **"Сумежжа" (Паставы)**, **"Рубон" (Верхнядзвінск)**, **"Новы горад" (Наваполацак)**, **"Орша-info" (Орша)**, **"Кардон" (Бешанковічы)**.


Заснавальнік і рэдактар Міхал Космыкаў.
Адрас рэдакцыі: 211200, г.п. Лёзна, вул. М. Акцябрская, 69.
Тэлефон 2-23-10

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі». Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 290 асобнікаў.